*У вёсцы зноў будзе солтыс (стар. 2) Еўрапейская місія Хілары Клінтан (стар. 3)*
*Свята скончылася вялікім смеццем (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 40.250
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2362441

9 ліпеня 1996 г. № 50 Кошт свабодны

## Панядзелак пачаўся з цяжкай размовы

Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка і старшыня ВС С.Шарэцкі пачалі свой працоўны тыдзень з сустрэчы, якая адбылася «на прэзідэнцкай тэрыторыі». Іх размова доўжылася 45 хвілін і, як заўважылі людзі з атачэння спікера, не дадала Шарэцкаму добрага настрою.

Між тым прэс-сакратар старшыні ВС Вераніка Трызна заявіла карэспандэнту СВАБОДЫ, што сустрэча прайшла ў дзелавой і ветлівай абстаноўцы. Па яе словах, прэзідэнт і спікер абмеркавалі пытанні, што паўстануць перад дэпутатамі на сесіі, якая адновіць работу сёння, у аўторак. Прэзідэнт падрыхтаваў для дэпутатаў пакет сваіх прапановаў. Таксама была закранутая тэма ўзаемаадносін паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі.

Шарэцкі абвергнуў абвінавачанні ў тым, нібыта ў Смаленску парламенцкая дэлегацыя Беларусі зрабіла крокі ў бок парушэння «дамовы з Расіяй наконт увядзення падвойнага грамадзянства». С.Шарэцкі заявіў прэзідэнту, што прапанова расійскага дэпутата С.Бабурына аб увядзенні падвойнага грамадзянства непрымальная, і падкрэсліў, што нашыя парламентары збіраюцца зрабіць усё, каб забяспечыць рэальную роўнасць правоў грамадзянаў абедзвюх краін і без інстытуту «двайнога грамадзянства». Спікер ВС зноў пацвердзіў прэзідэнту сваю пазіцыю адносна незалежнасці краіны: Беларусь павінна застацца суверэннай, нягледзячы на ўсе інтэграцыйныя працэсы.

Па звестках прэс-сакратара, на сустрэчы ішла гаворка і аб тым, ці збіраецца прэзідэнт выступіць па запрашэнні парламента з дакладам аб эканамічным становішчы. Вынікі, аднак, пакуль невядомыя. Што ж тычыцца другой праблемы ва ўзаемаадносінах ВС з прэзідэнтам — «канфіскацыі» «Народнай газеты», — то яна, па словах Шарэцкага, не закраналася. Між тым ужо вядома, што ў мінулую пятніцу старшыня ВС звярнуўся з гэтай нагоды ў Канстытуцыйны суд. Да запыту спікера ў КС прыкладзеныя заявы двух супрацоўнікаў «Народнай газеты», якія сцвярджаюць, што на сходзе калектыву газеты пытанне аб звароце да Лукашэнкі — з просьбай забраць «НГ» пад прэзідэнцкае крыло — не падымалася.

*На здымку: старшыня падкамісіі ВС на сродкіх масавай інфармацыі дэпутат А.Дабравольскі пераконвае Сямёна Шарэцкага, што Вярхоўны Савет павінен адстаяць «Народную газету». На заднім плане — дэпутат Л.Юнчык, якога парламенцкая камісія прапаноўвала сесіі ў якасці кандыдата на пасаду галоўнага рэдактара «НГ».*

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## ЛІСТ НА ПЕРШУЮ ПАЛАСУ

*Написать в редакцию заставила обида, которую мне, пенсионерке, на старости лет причинил директор совхоза «Утёс» Добыш Алексей Федорович.*

*У меня умер муж. Я перенесла инфаркт. Здоровье теперь слабое, и работать, как прежде, уже не могу. А поэтому я отказалась от участка совхозной свеклы, которую надо было обрабатывать, убирать. В ответ директор совхоза меня, пенсионерку, наказал: не дал участок сенокоса (ссылаясь на то, что, дескать, «если можешь держать корову, значит, можешь и свеклу обрабатывать»). Неужели за 60 лет тяжелого крестьянского труда (была дояркой) я не заработала права на сенокос? Хотя за это время я ни разу не отказывалась от участка свеклы.*

*После отказа директора я пошла в райисполком г.Барановичи. Меня принял заместитель председателя Бернат. Он мне ответил примерно теми же словами, что и директор совхоза: можешь вызвать детей из города, и пусть они обрабатывают свеклу, а если они тебе не помогут обработать свеклу, подавай на них в суд за то, что не помогают. Но ведь дело не в детях, а в том, что директору нужны только здоровые рабочие руки, а мы, больные пенсионеры, никому не нужны. Разве можно так относиться к людям?!*

*Прошу вашего содействия и помощи. Пусть наш директор о своем поведении прочтет в вашей газете. Может, это поможет ему — бывшему работнику райкома партии — понять и осознать аморальность своего поступка и требований. Скажите ему, что и он не всегда будет молодым и здоровым. Разве что в деревне он тогда не останется жить, а уедет в город, где осталась квартира.*

***С уважением КУЗЬМИНА Вера Ивановна,***
***д.Богуши, Барановичский р-н, Брестская обл.***

### Ад рэдакцыі

**Для людзей, якія трохі ведаюць вясковую рэчаіснасць, гэты ліст — не навіна. Сістэма калгасна-саўгаснага прыгону застаецца некранутаю, нават на старасці гадоў чалавека прымушаюць быць рабом. Паглядзіце: жанчына адпрацавала 60 гадоў і не зарабіла нават сена для каровы!**

**Мы публікуем гэты ліст на першай паласе з мэтаю прыцягнуць увагу сталічнага начальства да надзённай праблемы сотняў тысяч такіх нямоглых бабуль, як Вера Іванаўна Кузьміна з вёскі Богушы.**

**Будзьце людзьмі! Вы не можаце даць ім прыстойную пенсію, якую яны зарабілі, — дык расплаціцеся хаця б сенам. Зразумейце, што карова для іх — адзіная крыніца існавання.**

## Лідэры БНФ прапануюць спікеру ініцыяваць імпічмент

**Лідэры Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык, якія ўжо тры месяцы фактычна знаходзяцца ў палітычнай эміграцыі, даслалі з-за мяжы ліст старшыні Вярхоўнага Савета Сямёну Шарэцкаму.**

Спікер палічыў неабходным пазнаёміць са зместам ліста членаў Прэзідыума і старшыняў парламенцкіх камісій. Кіраўнікі апазіцыі звяртаюць увагу старшыні заканадаўчай улады на тое, што «дзеянні прэзідэнта Лукашэнкі, сістэматычнае і грубае парушэнне ім законаў, Канстытуцыі і правоў чалавека сталі небяспечнымі для грамадства і існавання беларускай дзяржавы». У Вярхоўнага Савета, на думку Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка, ёсць усе падставы для аб'яўлення імпічмента прэзідэнту А.Лукашэнку, паколькі «грубае парушэнне прэзідэнтам Канстытуцыі адзінаццаць разоў даказана Канстытуцыйным судом».

У сувязі з гэтым лідэры БНФ просяць С. Шарэцкага, як старшыню Вярхоўнага Савета, ініцыяваць законнае змяшчэнне А.Лукашэнкі з пасады прэзідэнта, стварыць спецыяльную парламенцкую камісію «па расследаванні выкарыстання А.Лукашэнкам прэзідэнцкай пасады для кантрабанднай дзейнасці сумесна з фірмай «Торгэкспо» і для гандлю зброяй», а таксама выступіць з ініцыятывай стварэння медыцынскай камісіі для правядзення экспертызы стану здароўя прэзідэнта.

**Раман ЮРЭВІЧ**

### ЗДАРЭННЕ

**Польскі паліцыянт застрэліў 34-гадовага грамадзяніна Беларусі.**

**Гэта здарылася ў нядзелю 30 чэрвеня ў Замброве (Ломжынскае ваяводства) падчас звычайнай праверкі на дарозе. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, усе пасажыры аўтамабіля былі ўзбоеныя. З нейкай прычыны пачалася сварка з паліцыянтамі, у выніку прагучалі стрэлы.**

**Польская пракуратура адмаўляецца паведаміць дэталі да заканчэння расследавання.** ***РАР***

## Рамашэўскага будуць судзіць 15 ліпеня

**На 15 ліпеня ў Ленінскім раённым судзе Мінска прызначаны судовы працэс над віцэ-прэзідэнтам Партыі аматараў піва Андрэем Рамашэўскім.**

Атрыманую СВАБОДАЙ інфармацыю пацвердзіў і ягоны адвакат Арсеній Скаруліс. Нагадаем, што Рамашэўскаму інкрымінуюць спальванне сцяга БССР падчас акцыі пратэсту беларускай моладзі 14 траўня 1995 года побач з адміністрацыяй прэзідэнта. Арсеній Скаруліс не ведае, ці стала прычынай пераносу даты судовага працэсу (з канца жніўня, як планавалася, на сярэдзіну ліпеня) аб'яўленая Рамашэўскім галадоўка. Адвакат таксама не даў пэўнага адказу на пытанне, як доўга будзе працягвацца яшчэ галадоўка, якую Рамашэскі пачаў 1 ліпеня.

**Раман ЮРЭВІЧ**

### БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

## У межах прыстойнасці

### *Не варта спадзявацца, што Расія пачне ратаваць нашу дэмакратыю*

Вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Расіі прынеслі зразумелы і апраўданы сітуацыяй уздых аблягчэння ў значнай частцы беларускага насельніцтва. Некаторыя найбольш наіўныя грамадзяне цяпер напаўняюцца надзеяй, што «перамога дэмакратыі» ў нашага ўсходняга суседа аўтаматычна мусіць прынесці свой станоўчы плён і ў Беларусі.

Самымі папулярнымі ў гэтых спадзяваннях з'яўляюцца наступныя думкі: па-першае, Лукашэнка нібыта вымушаны будзе праводзіць рынкавыя рэформы, па-другое, Лукашэнка нібыта вымушаны будзе хоць у нейкай ступені прытрымлівацца дэмакратычных правілаў.

Здаецца, даўно можна было зразумець, што сучасная (у тым ліку і расійская) палітыка кіруецца выключна нацыянальна-стратэгічнымі інтарэсамі, а не нейкімі ўяўнымі ідэаламі. Зрэшты, гэта асабліва слушна для вялікіх дзяржаваў, якія часам прыкрываюць барацьбу за ўласныя інтарэсы фразеалагізмамі тыпу «абарона дэмакратыі», «падтрыманне міру» і г.д. Зюганаў, здаецца, прайграў выбары найперш з прычыны свайго ідэалагічнага «кляйма»: афіцыйная дэмакратычная прэса пераканала расіян, што ён «камуніст», а не «патрыёт». Ельцын, у сваю чаргу, ніяк фактычна не акрэсліваў уласную палітычную «мянушку», а дэмакратамі сёння ў Расіі называюць сябе ўсе без выключэння.

Сёння няма ніякіх падставаў спадзявацца, што расійская ўлада па нейкіх абстрактных ідэйных прычынах пачне падтрымліваць беларускую апазіцыю — ці то ліберальную, ці нацыянал-дэмакратычную. Для Расіі **стратэгічна выгадна** бачыць у Беларусі лаяльны да Масквы палітычны рэжым, які б забяспечваў ці хаця б не перашкаджаў замацаванню на гэтай зямлі расійскіх эканамічных і геапалітычных інтарэсаў.

Калі ў Ельцына хопіць інтуіцыі і палітычнага вопыту, ён ацэніць рэальную пагрозу, што зыходзіць ад «маладога палітыка», і будзе трымаць Лукашэнку на пэўнай адлегласці. Сапраўды, калі «малодшы брат» час ад часу траціць пачуццё рэальнасці, яго трэба ставіць на месца, даваць яму паказальна-публічныя «ўрокі дэмакратыі». Але «ўрокі» не настолькі сур'ёзныя, каб пахіснуць уладу беларускага прэзідэнта.

Расія, на маю думку, ні ў якім разе не падтрымае дэстабілізацыю існуючага рэжыму. Тым больш сёння у Беларусі пакуль не бачна яркай і прымальнай для большасці насельніцтва палітычнай фігуры, якая склала б рэальную альтэрнатыву Лукашэнку. Расія патраціла максімум намаганняў і матэрыяльных рэсурсаў, каб забяспечыць прыход да ўлады прамаскоўскіх палітыкаў у Азербайджане і Грузіі, каб паўплываць на сітуацыю ў Літве і Латвіі. Было б вяршыняй глупства з боку Крамля рабіць падкопы пад самы адданы прарасійскі рэжым Лукашэнкі.

Пэўныя непрыемнасці прэзідэнт Беларусі будзе мець з расійскай дэмакратычнай прэсай, якая, безумоўна, пасля заканчэння прэзідэнцкіх выбараў стане больш разняволенай і крытычнай у ацэнках «кіраўніка ССР». Але і на гэтым фронце Лукашэнка ўжо рыхтуе апераджальны ўдар у выглядзе рэферэндуму. Пашырэнне *NATO* — бадай, самае балючая на сённяшні дзень знешнепалітычная праблема для Расіі. І тут, калі напружанне ўзрастае, калі «вялікую дзяржаву» ніхто асабліва не слухае, у «братняй Беларусі» знаходзіцца палітык, які гатовы кінуцца пад натаўскі танк дзеля абароны расійскіх інтарэсаў. Ну як, скажыце, такога чалавека можна не любіць? Якая свалата асмельваецца яго крытыкаваць? Ды за такі гераізм яму трэба зноў дараваць усе даўгі, абы толькі наш Аляксандр Рыгоравіч вытрываў супраць Захаду і нацыяналістаў!

...Лукашэнка заўсёды знойдзе, чым зацікавіць Маскву, прымусіць яе падтрымліваць свой рэжым. У Беларусі яшчэ не ўсё прададзена, аб'ектаў для гандлю больш чым дастаткова. Нават калі б афіцыйную Расію прадстаўлялі высакародныя дэмакраты, яны таксама вымушаныя былі б, хаваючы грэблівую грымасу, прыязна ціснуць руку «этому колхознику». Сённяшнім насельнікам Крамля, не вельмі высакародным і не вельмі дэмакратам, рабіць гэта яшчэ прасцей. Масква ў бліжэйшы час **будзе падтрымліваць** існуючую ў Беларусі ўладу, турбуючыся зрэдку адно аб тым, каб гэты рэжым захоўваў пэўныя межы прыстойнасці. Застаецца толькі здагадвацца, як у Расіі разумеюць гэтыя межы.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

# У вёсцы зноў будзе солтыс

**У Бераставіцкім раёне Гродзенскай вобласці сёлета пачалі выбіраць старастаў населеных пунктаў.**

У кожнай вёсцы будзе свой староста. Звычайна гэта — самы аўтарытэтны сярод аднавяскоўцаў чалавек, якога яны выбіраюць большасцю галасоў на сходзе.

Гродзенскія абласныя ўлады зацвердзілі «палажэнне», у адпаведнасці з якім, старасты абірацца будуць на 2 або 3 гады. Галоўная ягоная задача — прыцягваць насельніцтва да «масавых культурных і гаспадарчых мерапрыемстваў». Іншымі словамі, на суботнікі, праполку буракоў або на дажынкі. Староста павінен арганізаваць людзей, каб добраўпарадкаваць вёску, прыбраць смецце, могілкі, магілы воінаў і партызанаў, а таксама адрамантаваць дарогі, вуліцы, масты. Старасты абавязаны «запабягаць парушэнням грамадскага парадку, працоўнай дысцыпліны і супрацьпажарнай бяспекі».

Старасты маюць абавязак выконваць яшчэ шмат іншых функцый. Што да правоў, дык яны досыць абмежаваныя. Можна, напрыклад, «уносіць прапановы і ўваходзіць з хадайніцтвамі» ў мясцовыя органы ўлады. Староста мае права кантраляваць на сваёй тэрыторыі, як і што будуюць, як ахоўваецца прырода і помнікі гісторыі і культуры, а калі хтосьці нешта парушае, староста можа выслухаць тлумачэнні парушальніка і прыняць да яго «меры грамадскага ўздзеяння». Ужо абраным старастам у Бераставіцкім раёне выдалі адпаведныя пасведчанні з пячаткамі. У дадатак да ўсяго ім дазволена таксама ствараць вясковую касу (калі гэтага пажадаюць жыхары). Памер узносаў вызначае сход. Грошы маюць быць выкарыстаныя на агульнавясковыя патрэбы.

Ініцыятарам гэтай справы быў старшыня Гродзенскага абласнога Савета Аркадзь Карпуць, які ўзначальваў да нядаўняга часу Бераставіцкі райсавет. Па ягоных словах, калі старасты сябе апраўдаюць, ён прапануе Вярхоўнаму Савету распаўсюдзіць такую форму мясцовага самакіравання на ўсю Беларусь. Карпуць спасылаецца на тое, што старасты існуюць у Польшчы, а таксама ў Разанскай вобласці Расіі.

Трэба дадаць, што ў Беларусі старасты існавалі здаўна, толькі называліся яны заўсёды солтысамі. У Вялікім княстве Літоўскім яны мелі шырокія паўнамоцтвы — ад збору падаткаў да выканання судовых функцый і камандавання апалчэннем у час вайны. У заходняй частцы Беларусі вясковыя солтысы таксама існавалі ў 1921 — 1939 гг. У апошнюю вайну солтысы выбіраліся вяскоўцамі па ўсёй Беларусі, вельмі часта яны рабіліся ахвярай савецкіх партызанаў.

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

# Нарушителей – ликвидировать

*Банковский кризис в Беларуси продолжает развиваться*

Ситуация потребовала непосредственного вмешательства Национального банка РБ, который на прошлой неделе принял решение о принудительной ликвидации пяти банков, среди которых — «Магнатбанк», «Дукат», «Содружество», «Интекс» и «Белорусский кредит». В соответствии с данным решением созданы ликвидационные комиссии, которые приступили к работе.

Причинами для принудительной ликвидации банков послужили выявленные многочисленные нарушения законов «О Национальном банке Республики Беларусь», «О банках и банковской деятельности в Республике Беларусь», нормативных актов Нацбанка, а также уставов самих банков.

Стоит отметить, что среди нарушений по всем банкам фигурировало невыполнение нормативов наращивания уставного фонда к 1 января 1996 года до 2 млн ECU. Однако сумм необходимого уставного фонда, как известно, не набрало большее количество банков, и, вероятно, основной причиной ликвидации послужил другой факт — фактическая неплатежеспособность этих пяти банков, о которой говорили уже довольно долгое время. Решение Нацбанка лишь подтвердило этот факт. К тому же неплатежеспособность двух из них — «Дуката» и «Магнатбанка» — была признана судом. Имущество же «Белорусского кредита» было в свое время изъято по решению хозяйственного суда Минской области в пользу АКБ «Корпобанк».

Принятое решение не обошлось без того, чтобы не вызвать скандала. Так, у ликвидационной комиссии «Магнатбанка» начались проблемы с его руководством, которое, похоже, считает некоторые действия комиссии не вполне законными и не предоставляет все необходимые документы и т.п. Ликвидационная комиссия после состоявшихся нескольких эмоциональных разговоров с председателем правления «Магнатбанка» Л.Трафимчик, похоже, потеряла надежду получить помощь с этой стороны. Наиболее же пострадавшими оказались вкладчики «Магнатбанка», которые пока остались без денег (кстати, одно из нарушений банка состояло в неисполнении предписания НБ, ограничивавшего размер привлечения вкладов населения до 26 млрд. рублей, — было привлечено 32 млрд.).

Я.ГАЛЕВИЧ

# Новополоцк беспокоит даже шведов

**Новополоцк посетила делегация Швеции в составе генерального секретаря министерства окружающей среды этой страны М.Лэннрота, сотрудника этого министерства А.Бохемана и посла Швеции в Латвийской республике А.Адала.**

На встрече с руководством города скандинавских гостей прежде всего интересовала степень экологической защищенности на предприятиях новополоцкого промышленного комплекса.

На вопрос г-на Лэннрота, застрахованы ли новополоцкие химические предприятия от аварий, влекущих за собой загрязнение воздушного бассейна и воды в р.Двина, председатель Новополоцкого горисполкома М.Козлов сказал, что от подобных аварий (вроде той, которая произошла в 1990 году, когда до самой Балтики несло рыбу вверх животом, а животные, случалось, умирали от того, что пили отравленную воду из реки) новополоцкие предприятия нефтехимии не застрахованы, ибо оборудование на них работает не один десяток лет. К этим словам председателя исполкома следует добавить и то, что давно ожидаемая модернизация и ПО «Полимир», и ПО «Нафтан» откладывается из года в год. У государства нет денег, а западные инвесторы не считают экономическое и политическое положение Беларуси благоприятным для инвестиций.

Во время встречи была достигнута договоренность о проведении шведской стороной мониторинга экологического состояния региона и его водного бассейна.

Алесь КОЗИК

# Касцёл замест помніка Леніну

**Наваполацкія гарадскія ўлады вызначылі месца пабудовы ў горадзе каталіцкага храма.**

Ён размесціцца побач з «трохзорным» гатэлем «Нафтан», які быў здадзены ў эксплуатацыю сёлета. З другога боку гатэля ў перспектыве збудуецца праваслаўны сабор (сёння там ужо існуе невялічкая царква). Цікава тое, што генпланам мінулых часоў на месцы ўзвядзення касцёла раней планаваўся будынак гаркама партыі з шырокім пляцам і помнікам Леніну. Часы змяніліся. А Наваполацк так і застаўся без скульптуры правадыра сусветнага пралетарыяту.

Васіль КРОКВА

# У Магілёве – «Магутны Божа»

**У Магілёве пачынаецца IV Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа».**

Афіцыйнае адкрыццё фестываля запланаванае на 12 ліпеня, але некаторыя мерапрыемствы пройдуць раней. Упершыню фестываль не сутыкаецца з адмоўнай пазіцыяй уладаў і мясцовай праваслаўнай епархіі. У мінулыя гады адзін з райвыканкамаў Магілёва забараняў праводзіць фестывальныя імпрэзы на сваёй тэрыторыі: маўляў, шматлікія госці з Нямеччыны, Брытаніі, Польшчы «павышаюць небяспеку венерычных захворванняў». Цяпер гарадскі выканкам нават стварыў уласны аргкамітэт і ўзяў на сябе некаторыя абавязкі па арганізацыйным забеспячэнні фэсту. Перастала пужаць уладу і ягоная назва.

Праваслаўная епархія, ад якой раней сыходзіла выразная антыфестывальная прапаганда, цяпер маўкліва назірае. Тым часам мітрапаліт Філарэт, благаславіўшы 2 гады таму сам фестываль, цяпер даў дабро і выступленням парафіяльных хораў з Мінска, Брэста і Гродна. Штогод фестываль спадарожнічае шумны поспех і вялікая ўвага гледачоў. І калі каталікі і пратэстанты заўсёды актыўна ўдзельнічалі ў фэсце, замацоўваючы сваё месца ў грамадскай свядомасці, пасіўнасць праваслаўных зусім не была на карысць самой праваслаўнай грамадзе.

Навіной фэсту стане правядзенне маладзёжнай музычнай акцыі «Беларускі рок насустрач фестывалю «Магутны Божа». У ёй возьмуць удзел вядомыя беларускія рок-гурты «Крама», «Уліс», «Новае неба», «N.R.M.». Несумненна, акцыя выклікае вялікую цікавасць моладзі. Адначасова гэта, бадай, адзін пункт праграмы, які выклікаў насцярожанасць з боку ўладаў. Толькі цвёрдая пазіцыя арганізатараў і вядомых сяброў фестываля дазволілі пакінуць акцыю ў праграме.

Асноўным спонсарам фестываля выступае Беларускі фонд Сораса, які выдаткаваў на яго правядзенне 7.000 USD. Чакаецца, што ў Магілёў прыедуць ганаровыя госці з Брытаніі — вядомы беларусіст, доктар права, спецыяліст у галіне беларускай духоўнай музыкі Гай Пікарда і, магчыма, уніяцкі святар, апостальскі візытатар Аляксандр Надсан. У фестывалі возьмуць удзел калектывы з Нямеччыны, Польшчы, Галандыі, Расіі і Украіны.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

# Мармоны прыжыліся ў Мінску

**Група мармонаў з Мінска накіравалася ў нямецкі горад Фрайберг для правядзення абрадаў у храме.**

Царква Ісуса Хрыста святых апошніх дзён (мармоны), цэнтр якой знаходзіцца ў ЗША, — адна з самых маладых у Беларусі. У 1993 годзе прыняла хрышчэнне ў гэтую веру першая сям'я мінчан. Праз год у Мінску былі зарэгістраваныя тры абшчыны з чатырох прыходаў. Цяпер налічваецца каля 300 членаў царквы, плануецца адкрыццё прыходаў у Гродне і Магілёве.

Сёлета беларускія мармоны перайшлі з-пад юрысдыкцыі ўкраінскай да віленскай місіі. Нашыя ўлады не дазваляюць зарэгістраваць беларускую місію, патрабуючы спачатку ствараць прыходы ў абласных цэнтрах, а потым ужо запрашаць місіянераў. Акрамя Украіны і Літвы, мармоны маюць пяць місій у Расіі. Аднак на тэрыторыі былога СССР пакуль не збудаваны ніводзін храм царквы святых апошніх дзён.

Асноўнай сваёй мэтай мармоны лічаць пропаведзь Евангелля і дабрачынную дзейнасць. Са Злучаных Штатаў у Беларусь яны накіравалі гуманітарную дапамогу на 1 мільён долараў. Частку груза атрымаў праваслаўны Свята-Нікольскі прыход і крышнаіты. Але асноўная маса размяркоўваецца гарадскімі ўладамі. Нядаўна мармоны прывезлі ў Мінск 20 тон адзення. Акрамя медыкаментаў і харчавання, яны падарылі бібліятэку найноўшай літаратуры па бізнесе, эканоміцы і англійскай мове прыватнаму эканоміка-лінгвістычнаму ўніверсітэту. Штогод прыязджаюць валанцёры з ЗША, якія займаюцца дабрачыннасцю ў бальніцах, дзіцячых дамах, установах культуры.

Прэзідэнт акругі беларускіх мармонаў, 41-гадовы Міхаіл Давыдзік кажа, што члены яго царквы сумленна працуюць, служаць у арміі, вялікую ўвагу ўдзяляюць адукацыі і сям'і.

Алесь ДАШЧЫНСКІ



ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «Бяз'ядзерную ініцыятыву» не толькі скралі, але і сказілі

Дэпутаты сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Саюз працы» збіраюцца правесці спецыяльнае абмеркаванне лёсу сваёй ініцыятывы аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў цэнтры Еўропы.

На думку парламентарыяў, галоўная праблема нават не ў тым, што А.Лукашэнка ў сваёй заяве 3 ліпеня перахапіў саму ідэю сацыял-дэмакратаў аб стварэнні ў цэнтры Еўропы бяз'ядзернай зоны. Значна горш, што ён сказіў ідэю і выклаў яе ў непрымальнай форме. Пётр Краўчанка параўнаў заяву прэзідэнта з ультыматумам. Былы міністр замежных спраў упэўнены, што менавіта так будуць успрынятыя названыя Лукашэнкам умовы стварэння ў цэнтры Еўропы бяз'ядзернай зоны.

Нагадаем, што прэзідэнт Беларусі паставіў патрабаванне, каб разам з нашай краінай абвясцілі сваю тэрыторыю бяз'ядзернай і іншыя дзяржавы рэгіёну. Ён таксама прапанаваў кіраўніцтву Паўночна-Атлантычнага альянсу накіраваць грашовыя сродкі, якія плануецца выдаткаваць у працэсе пашырэння *NATO* на Усход, на вырашэнне нашых чарнобыльскіх праблем. *«Такая прапанова разыходзіцца з міжнароднай практыкай. Яна наўрад ці будзе прынятая міжнароднай супольнасцю і толькі перашкодзіць поспеху ўсёй ініцыятывы»*, — упэўнены Пётр Краўчанка.

І ўсё ж асноўныя прэтэнзіі сацыял-дэмакратаў датычаць самой сутнасці прэзідэнцкай заявы. На іхнюю думку, кіраўнік дзяржавы недапушчальна звузіў праблему стварэння новай сістэмы бяспекі ў Еўропе да пытання аб размяшчэнні ядзернай зброі. Ініцыятыва сацыял-дэмакратаў была выкладзеная ў дакуменце пад назвай «Аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў цэнтры Еўропы», які прадугледжваў, што Беларусь, Украіна, краіны Балтыі і Польшча абвесцяць свае тэрыторыі бяз'ядзернай зонай; Расія і *NATO* пры гэтым абавязваюцца не размяшчаць там ядзерныя ракеты і свае войскі; згаданыя дзяржавы абавязваюцца не ўступаць у ваенныя блокі, а Расія і *NATO* адмаўляюцца ад палітыкі ўцягвання іх у вайсковыя саюзы.

Адзін з кіраўнікоў партыі «Народная Грамада» Леанід Лойка (менавіта яму сацыял-дэмакраты аддаюць аўтарства сваёй ініцыятывы) дае такія каментары: *«Наш праект па сутнасці напаўняў канкрэтным зместам дэклараваную ў Канстытуцыі нейтральнасць Беларусі. Мы зыходзілі з таго, што нам нікуды не дзецца ад палітычнага ўплыву Расіі. І таму ініцыятыва пакідае магчымасць уступлення Беларусі ў палітычныя саюзы, але не ў вайсковыя блокі. Што ж да прэзідэнцкай ініцыятывы, то яна відавочна накіраваная на процістаянне NATO. Да таго ж мір у Еўропе не можа будавацца толькі на пытанні размяшчэння ядзернай зброі»*. І сапраўды, нават калі ўявіць, што прапанова Лукашэнкі выкарыстаная, на нашай тэрыторыі няма расійскіх ядзерных ракет, і ў Польшчы і Прыбалтыку *NATO* не ўвяло свае, усё роўна захаваюцца нашыя сённяшнія абавязацельствы перад Расіяй, яе базы на нашай тэрыторыі, і таму мы будзем успрымацца суседзямі як магчымая крыніца пагрозы з Усходу.

Што ў гэтай сітуацыі рабіць сацыял-дэмакратам — далучыцца да прэзідэнцкай ініцыятывы ці працягваць распрацоўку сваёй уласнай? На думку Л.Лойкі, сацыял-дэмакраты хутчэй за ўсё вернуцца да раней прынятага плана дзеянняў: спачатку пазнаёмяць з дакументам калегаў-дэпутатаў з іншых краін Еўропы і толькі потым, улічыўшы іхнюю рэакцыю, возьмуцца за прапаганду ідэі на ўзроўні агульнаеўрапейскіх форумаў.

Між тым «бяз'ядзерная ініцыятыва» Беларусі мае шанцы на поспех толькі ў тым выпадку, калі заканадаўчая і выканаўчая ўлады будуць дзейнічаць разам, узгоднена. Пакуль жа яны дэманструюць недавер адна адной. Некаторыя дэпутаты лічаць, што Лукашэнка папросту хоча палепшыць уласны імідж напярэдадні візіту ў Францыю і забудзецца на сваю прапанову хутка пасля таго, як вернецца з Парыжа, дзе ініцыятыву хутчэй за ўсё чакае халодны прыём. Іншыя бачаць у ягоных дзеяннях працяг старога прарасійскага курсу на стварэнне нашымі рукамі падмурка новага ўсходняга вайсковага блока.

Ці варта спадзявацца, што прэзідэнт пачуе заўвагі дэпутатаў і ўзгодніць сваю ініцыятыву з дакументам сацыял-дэмакратаў? Пакуль магчымасць ёсць, бо прэзідэнцкая ініцыятыва не выкладзеная ў форме дакумента, а «з голасу» ў Еўропе нічога не прымаюць і нават не пачынаюць абмяркоўваць. Толькі ці захоча Лукашэнка «зрабіць ласку» прадстаўнікам Вярхоўнага Савета, з якім ягоныя адносіны ўвесь час пагаршаюцца?

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

# Еўрапейская місія Хілары Клінтан

**Першая лэдзі ЗША Хілары Клінтан знаходзіцца ў паездцы па краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.**

Гэтае турнэ пачалося 1 ліпеня ў Румыніі. Далейшы шлях праз Польшчу, Чэхію, Венгрыю, Эстонію закончыцца 11 ліпеня ў Хельсінкі. У праграме сустрэчы Х.Клінтан з прадстаўнікамі перш за ўсё жаночых і няўрадавых арганізацый.

Паводле інфармацыі Белага Дома, паездка павінна падкрэсліць значны эканамічны і сацыяльны прагрэс, дасягнуты краінамі рэгіёна, а таксама прыцягнуць увагу да нявырашаных пытанняў, сярод якіх — правы чалавека, рынкавыя асновы эканомікі, праблемы сям'і. А як сказала сама пані Клінтан у Польшчы, яна прыехала, «каб перадаць упэўненасць мужа, што мы хочам пашыраць супрацоўніцтва і сяброўства паміж краінамі».

Аднак некаторыя аналітыкі бачаць сапраўдную прычыну паездкі жонкі Біла Клінтана ў тым, што ў Злучаных Штатах набірае сілу прэзідэнцкая выбарчая кампанія. Выказаўшы зацікаўленасць і прыхільнасць да дзяржаваў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, Б.Клінтан, на думку многіх аглядальнікаў, спадзяецца сабраць галасы амерыканцаў, якія этнічна паходзяць з гэтага рэгіёна. Да прыкладу, пані Клінтан паабяцала, што амерыканскі ўрад выдзеліць 700 тысяч долараў арганізацыям, якія падтрымліваюць і развіваюць пабудову дэмакратыі ў Польшчы, а яшчэ 20 тысяч долараў павінен атрымаць польскі фонд «Сябры дзяцей шпіталя».

Амерыканскія арганізатары турнэ стараюцца знайсці і ўскосныя сродкі, каб падкрэсліць станоўчыя якасці сямейнай пары Клінтанаў. Напрыклад, перад сустрэчай Х.Клінтан з Ёлянтай Квасьнеўскай журналістам раздавалі жыццеапісанні абедзвюх першых пані, дзе пра жонку польскага прэзідэнта можна было прачытаць, што «даўжыня яе спадніц стала тэмай нацыянальных дыскусіяў».

Хілары Клінтан (справа) і Ёлянта Квасьнеўская ў Варшаве.

Аднак існуе і абсалютна процілеглы пункт погляду. Журналісты амерыканскай тэлекампаніі *ABC*, асвятляючы падарожжа Х.Клінтан, выказвалі думку, што першая лэдзі падалася ў Еўропу, каб на нейкі час знікнуць з Вашынгтона, дзе яна апынулася ў цэнтры розных скандалаў. Падобныя меркаванні можна сустрэць і ў каментарыях іншых сродкаў масавай інфармацыі. Зрэшты, такая трактоўка — гэта, у пэўнай меры, нацяжка, бо паездка планавалася і рыхтавалася даўно, але палітычныя хмары над Белым Домам і сям'ёй Клінтанаў сапраўды згусціліся.

Яшчэ не скончыўся так званы скандал «Уайтўотэр», звязаны з цьмяным бізнесам у гандлі нерухомасцю (паводле некаторых крыніц у Сенаце ЗША, Клінтаны недаплацілі каля 30 тыс. долараў падаткаў, а ў махінацыях непасрэдна ўдзельнічалі сакратарка і асабісты дарадца Хілары Клінтан, а таксама адзін з юрыстаў Белага Дома), яшчэ доўжыцца судовы працэс, у ходзе якога адкрываюцца сведчанні, што Біл Клінтан раздаваў уплывовыя пасады ў адміністрацыі штата Арканзас тым, хто не шкадаваў грошай на ягоную губернатарскую выбарчую кампанію. Аднак на першы план выплываюць больш непрыемныя гісторыі.

У 1993 годзе раптам былі звольненыя з працы ўсе сем супрацоўнікаў службы, якая займалася арганізацыяй «журналісцкай світы» падчас падарожжаў прэзідэнта. Спецыяльная камісія Сената ЗША мае звесткі, што гэта менавіта Хілары Клінтан спрычынілася да іх звальнення, каб зрабіць месца для кузынкі Біла і іншых «сваіх» людзей. Далей — болей. Высветлілася, што Белы Дом запатрабаваў ад ФБР 700 персанальных справаў, у якіх змяшчаецца самая прыватная інфармацыя пра супрацоўнікаў былой рэспубліканскай адміністрацыі Буша (напрыклад, звесткі, сабраныя агентамі ФБР ад суседзяў, калег, сяброў «аб'екта»).

Біл Клінтан неаднаразова тлумачыў, што ўзяцце сакрэтных папак з ФБР — «нявінная бюракратычная памылка», але служба аховы прэзідэнта і само ФБР абверглі гэтыя сцверджанні. Да таго ж паказальна, што неабмежаваны доступ да гэтай інфармацыі мелі дзве асобы — Энтані Марсэка і яго паднačалены Крэйг Лівінгстоўн. Першага ў свой час выключылі з перадвыбарчай каманды кандыдата ў прэзідэнты Гэры Харта за прапанову шантажу і дыскрэдытацыі канкурэнтаў шляхам «выцягвання бруднай бялізны». Крэйг Лівінгстоўн мае яшчэ цікавейшую гісторыю — некалі ён быў «вышыбалам» у дыскатэцы, пасля яго выгналі з працы ў супермаркеце «за нелегальную падмену тавараў», быў у ягоным жыцці і перыяд наркаманіі. Паказальна, што ніхто ў Белым Доме не прызнаецца ў «працаўладкаванні» гэтай асобы, але шмат розных крыніц сцвярджае, што і тут не абышлося без Хілары Клінтан.

Паводле дадзеных апытання тэлекампаніі *ABC*, 56 % амерыканцаў лічаць, што «Файлгейт» (так называюць гэты скандал з сакрэтнымі папкамі ФБР) — доказ свядомага злоўжывання службовым становішчам з боку Клінтана. У даследаваннях грамадскай думкі перавага Клінтана над сапернікам у перадвыбарчай барацьбе Бобам Доўлам пачынае змяншацца. Але тым не менш ён апярэджвае свайго канкурэнта ад рэспубліканцаў на 14 %.

*Падрыхтаваў*
**Усевалад РАГОЙША**

# 447 мільярдэраў

**Амерыканскі часопіс *Forbes* апублікаваў свой традыцыйны «рэйтынг» самых багатых людзей свету.**

Паводле *Forbes*, найбагацейшы чалавек на свеце — Біл Гэйтс, саўладальнік камп'ютэрнай імперыі *Microsoft*, ягоная маёмасць ацэньваецца ў 18 млрд. долараў. На другім месцы — 15,3 млрд. USD — біржавы інвестар Уорэн Бафэт, ягоная фірма валодае вялікімі пакетамі акцый, у тым ліку такіх фірм, як *Coca-Cola* і *Walt Disney*. На трэцяй пазіцыі — Паўль Захер, саўладальнік фармацэўтычнага канцэрну *Roche*. Далей у спісе ідуць пераважна малавядомыя імёны бізнесменаў з Азіі. Гэта сведчыць, што Далёкі Усход адыгрывае ў сусветнай эканоміцы ўсё большую ролю.

Эксперты *Forbes* лічаць, што сёння на свеце жыве 447 асоб або сем'яў, якія валодаюць мінімум адным мільярдам долараў. Летась такіх было толькі 338. Кожны трэці мільярдэр — са Злучаных Штатаў, але шырокімі крокамі іх даганяе Азія. Ужо ёсць 41 японскі мільярдэр, 20 у Ганконгу і 62 — у іншых азіяцкіх краінах. Еўропа адстае: У Германіі жывуць 52 мільярдэры, а ў наступнай па спісе Францыі — толькі 14.

У масавай свядомасці слова «мільярдэр» звычайна асацыіруецца з прозвішчамі нафтавых і прамысловых магнатаў — Ракфелераў, Морганаў, Ротшыльдаў... Аднак некаторых з іх ужо няма ў спісе: нашчадкі распусцілі багацце дзядоў. Да таго ж з году ў год усё мацнейшыя пазіцыі займаюць не прамыслоўцы, а ўладальнікі фірм, якія займаюцца самымі сучаснымі «інтэлектуальнымі» тэхналогіямі — камп'ютэрамі, праграмным забеспячэннем, медыцынай, сродкамі інфармацыі і камунікацыі.

**Першая дзесятка мільярдэраў**

| Імя | Маёмасць, млрд. долараў | Краіна | Сфера дзейнасці |
|---|---|---|---|
| Біл Гэйтс | 18,0 | ЗША | камп'ютэрныя праграмы |
| Уорэн Бафэт | 15,3 | ЗША | біржавыя інвестыцыі |
| Паўль Захер | 13,1 | Швейцарыя | фармацэўтыка |
| Лі Шо-кі | 12,7 | Ганконг | аперацыі з нерухомасцю |
| Цай Ван-лін | 12,2 | Тайвань | страхавы сервіс |
| Лі Ка-шынг | 10,6 | Ганконг | біржавыя інвестыцыі |
| Ёшыакі Цуцумі | 9,2 | Японія | аперацыі з нерухомасцю, транспарт |
| Пол Ален | 7,5 | ЗША | камп'ютэрныя праграмы, мультымедыя |
| Кенет Томсан | 7,4 | Канада | СМІ, нерухомасць |
| Тан Ю | 7,0 | Філіпіны | аперацыі з нерухомасцю |

# Санта Барбара не прадаецца

**Урад Іспаніі распрацаваў праграму комплекснай прыватызацыі.**

Паводле папярэдніх ацэнак, ужо да канца гэтага года яе выкананне павінна прынесці дзяржаве 600 млрд. песет (больш за 4,7 млрд. долараў).

Усе дзяржаўныя прадпрыемствы падзеленыя на 4 групы. Да першай адносяцца фірмы, якія падлягаюць тэрміновай, поўнай прыватызацыі — напрыклад, *Repsol* (нафтаперапрацоўка), *Argentaria* (банкаўская група), *Telefonica* (сувязь). У другую групу ўваходзяць вытворчасці, над якімі дзяржава і ў далейшым будзе мець пэўны кантроль: тут фігуруе электраэнергетычная сетка *Endesa*. Трэцяя група — гэта прадпрыемствы, якія спачатку павінны прайсці рэструктурызацыю, а ўжо потым будуць часткова ці поўнасцю прададзеныя; гэта, напрыклад, канцэрн *Casa* (касмічныя палёты) і аэракампанія *Iberia*.

Да апошняй групы аднесеныя прадпрыемствы, якія ўвогуле не падлягаюць прыватызацыі. У гэтым спісе — *Astilleros Españoles* (цывільнае судабудаўніцтва), *Bazan* (ваенныя верфі), *Santa Barbara* (заводы ўзбраення).

*Паводле паведамленняў замежнай прэсы падрыхтавала*
**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Што думаюць палякі пра Расію

Польская служба сацыялагічных даследаванняў *CBOS* правяла апытанне грамадскай думкі на тэму стаўлення палякаў да Расіі і расіянаў. Пытанне было сфармуляванае ў нязвыклай форме: **«Калі я чую слова Расія, то на думку прыходзіць...»** Рэспандэнтам дазвалялася выбраць два з прапанаваных адказаў. Апытанне дало наступныя вынікі:

**злачыннасць, мафія** .................................... 37%
**вечная пагроза міру ў свеце** ........................ 33%
**злачынствы супраць іншых народаў** ............ 31%
**пакуты рускага народа** ............................... 27%
**нізкая культура, п'янства** ............................ 25%
**шчырасць, гасціннасць** ............................... 14%
**выдатная літаратура, музыка, мастацтва** ...... 13%
**дасягненні навукі і тэхнікі** ............................ 8%

Большыя антырасійскія настроі выказалі людзі з невысокай адукацыяй, нізкім матэрыяльным узроўнем жыцця, а таксама мужчыны ў параўнанні з жанчынамі. Большай сімпатыяй да Расіі вызначаюцца погляды людзей з вышэйшай адукацыяй і тых, хто сваю палітычную арыентацыю акрэсліў як «левую».

*Паводле Gazety Wyborczej*

# Свята скончылася вялікім смеццем

Свята горада «Я люблю Мінск», якое адбылося 6-7 ліпеня, сабрала мінчан пераважна маладога ўзросту. На адкрыццё прыехаў прэзідэнт Лукашэнка з аховай, каб па традыцыі савецкіх кіраўнікоў «пообщаться» з народам. Паводле свайго амплуа, прэзідэнт шмат абяцаў. Аднак далёка не ўсе пажадалі пабачыць прэзідэнта «живьем». Народу хацелася адпачыць ад палітыкі ў гэты цёплы сонечны дзень. Праз дзве гадзіны прэзідэнт пакінуў публіку каля Палаца спорту і пайшоў да народа ў парк Горкага.

Свята нагадвала маляўнічы кірмаш, дзе можна было купіць свежую гародніну, ягады, а таксама вяндліну, якая плавілася на сонцы. Частаваліся шашлыкамі (па 11.500 рублёў за порцыю), якія смажыліся тут жа, каля праспекта Машэрава, і беларускімі дранікамі (па 1.500 рублёў). Асартымент вырабаў народных рамеснікаў і ўмельцаў быў зусім небагаты. З прычыны высокіх коштаў гэтыя вырабы не надта карысталіся попытам.

Кожны стараўся выкарыстаць свята ў сваіх мэтах. Нехта піў піва ці шампанскае. Дзеці і пенсіянеры збіралі пустыя бутэлькі. Дзве гаспадыні прынеслі на продаж кацянят і шчанят.

Шмат мінчан, аматараў піва, сабраліся на свята «Смага-96», заінтрыгаваныя магчымасцю бясплатна напіцца прадукцыі піўзаводаў. Але для гэтага патрэбна было перамагчы ў вясёлым спаборніцтве. Удзельнічалі ў ім маладзейшыя, а старэйшыя праглі пачаставацца півам без спаборніцтва, бо скакаць у мяшку няма ніякіх сіл. Акрамя літровых бутэлек піва, разыгралі тры больш каштоўныя прызы — халадзільнік, магнітолу і доўгатэрміновую пуцёўку на піўзавод «Аліварыя».

Кіраўнік ансамбля «Сябры» Анатоль Ярмоленка прадставіў новы гатунак піва «Сябры», якое, аднак, немагчыма было купіць на свяце. Затое ўсе пачулі ягоную песню «Піце піва, мужыкі».

*На здымках: прэзідэнт Лукашэнка і мэр Мінска Ярмошын ацэньваюць майстэрства цырульнікаў; публіка захаплялася танцамі і каханнем; гандляркі півам, выканаўшы сваю місію, драмалі ў цяньку.*

Арганізатары свята паспрабавалі прадугледзець усе дэталі, але, відаць, не разлічылі маштабаў свята. Непадалёк ад шэрагу невялікіх кафэ паставілі некалькі часовых туалетаў, каля якіх выстройваліся даўжэзныя чэргі. Выкінуць смецце папросту не было куды, таму людзі стыхійна пачалі арганізоўваць «спецыяльныя месцы», дзе неўзабаве выраслі высокія кучы.

Зусім у кантэксце апошняй «любові» да Мінска і яго жыхароў выглядала арганізаваная на свяце забаўка — пейнтбол. За чатыры тысячы рублёў прапанавалася зрабіць адзін стрэл па жывой мішэні. Па чалавеку, які быў адпаведна апрануты, стралялі са стрэльбы шарыкамі з фарбай. Некаторыя бацькі куплялі «набоі» для сваіх дзетак. Сапраўды, стрэліць у чалавека каштавала танней, чым праехаць на кані невялікі круг за 10 тысяч рублёў.

Каля сямі гадзін вечара сабралася навальніца, якая пагнала натоўп людзей у бліжэйшы пераход у метро. Нягледзячы на тое, што там сустрэліся два патокі (з метро і ў метро), абышлося без хуткай дапамогі.

Надвор'е зблытала праграму свята. Дождж прымусіў адмяніць оперу «Дзікае паляванне караля Стаха» ў Траецкім прадмесці. Нарад міліцыі, які прыехаў ахоўваць таленты ад гледачоў, аказаўся без справы. А вось салдаты дачакаліся свайго часу, каб наладзіць феерверк пасля «балетна-светлавой феерыі» ў парку Янкі Купалы, а пасля яшчэ адзін — на выспе каля Траецкага прадмесця.

Купальская ноч атрымалася даволі ціхай і паэтычнай. Некаторыя яшчэ сядзелі на цыратках, а то і проста на зямлі, параскладаўшы хлеб, кілбасы, агуркі і выпіўку, побач летуценна праходзілі нарады міліцыі, не кажучы нікому ні слова. Некаторыя спрабавалі танчыць. Маладыя хлопцы бязмэтна хадзілі, трымаючы ў руках непачатыя пляшкі з шампанскім: піць ужо не хацелася, і без таго было цёпла і прыемна. Міліцэйскі афіцэр праз мегафон час ад часу па-бацькоўску раіў «воздержаться от совершения противоправных поступков», але асаблівай патрэбы ў гэтым не было. Адчувалася атмасфера агульнага міру, спакою і паблажлівасці. Пасля ўзмоцненага дынамікамі паведамлення, што мерапрыемства скончылася, а гандлёвыя пункты спынілі сваю работу, народ пад раніцу разыходзіўся па хатах. Стомленыя за цэлы дзень, некаторыя ішлі не вельмі ўпэўнена, і таму ветлівыя людзі ў мундзірах ліхтарыкамі падсвечвалі раскапаную набярэжную.

А на месцы свята засталася ўшчэнт вытаптаная трава і моцна засмечаная тэрыторыя. Разбітыя бутэлькі ад піва, папяровыя талерачкі і кубачкі стварылі перашкоду для марафонцаў, якія пачалі забег у нядзелю 7 ліпеня. Ад вялікай любові да Мінска пацярпела і Свіслач, якая за час свята прыняла ладную порцыю пустых бутэлек, паперы і дошак.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## СПОРТ

# Уімблдон – наш!

### *ТЭНІС:* ВАЛЧКОЎ НА ВЯРШЫНІ

18-гадовы мінчанін Уладзімір Валчкоў стаў пераможцам славутага Уімблдонскага турніру ў юніёрскім разрадзе. Першай жа сярод беларускіх тэнісістаў «асвоіла» Уімблдон Наташа Зверава, якая не раз перамагала ў разрадзе юніёрак і жаночых пар. На гэты раз яна разам з сваёй пастаяннай партнёркай Джы Джы Фернандэс з ЗША дайшла да паўфіналу, дзе мацнейшымі аказаліся іх саперніцы Ларыса Нейланд (Латвія) і Мерыдыт Макграт (ЗША) — 6:4, 3:6, 11:9. У спаборніцтвах мужчын пасля шматлікіх сенсацый у фінал упершыню ў гісторыі турніру выйшлі два ігракі, якія не трапілі пры папярэднім рассейванні ў лік 16 мацнейшых — Рыхард Крайчэк (Галандыя) і Маліваe Вашынгтон (ЗША). Крайчэк, які перамог у чвэрцьфінале чэмпіёна трох апошніх год амерыканца Піта Сампраса, дастаткова лёгка даказаў сваю перавагу — 6:3, 6:4, 6:3. А вось немка Штэфі Граф заваявала чэмпіёнскі тытул ужо сёмы раз. У рашаючым матчы яна перайграла іспанку Аранту Санчас — 7:5, 6:3. Перамога Граф стала юбілейнай — 20-й па ліку ў турнірах Вялікага Шлема, да якіх па традыцыі адносяць адкрытыя чэмпіянаты Аўстраліі, Францыі, Англіі (Уімблдон) і ЗША.

Цікава, што Крайчэк і Граф атрымаюць за перамогу чэкі на суму каля 600 тысяч долараў кожны.

Гуляйце ў тэніс — і ў вас не будзе праблем!

### *БАСКЕТБОЛ:* З НЯБЁСАЎ — НА ЗЯМЛЮ

Два гады таму маладзёжная зборная Беларусі нечакана для ўсіх заваявала залатыя медалі чэмпіёнаў Еўропы. У гэты раз, нягледзячы на ўдзел Аляксандра Куля (рост — 2 м 12 см), які прыляцеў з ЗША, і маскоўскіх дынамаўцаў Руслана Байдакова і Дзмітрыя Кузьміна, каманда выступіла няўдала. З сямі матчаў нашы выйгралі толькі адзін і занялі 10-е месца сярод 12 фіналістаў.

### *ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА:* БЕЗ ЗАЛАТЫХ ЗЛІТКАЎ

Летась чэмпіёнка свету ў кіданні кап'я Наталля Шыкаленка стала ўладальніцай залатых зліткаў, якія ўручаліся за перамогу на ўсіх чатырох этапах серыі *Golden Four* («Залатая чацвёрка»). У гэтым годзе ўжо на першым этапе ў Осла Шыкаленка заняла трэцяе месца, кінуўшы снарад на 64 м 20 см, а выйграла яе галоўная саперніца Трынэ Хатэстад з Нарвегіі — 67 м 6 см. І яшчэ адзін уладальнік зліткаў не змажа паўтарыць свой поспех — амерыканец Майкл Джонсан. Пасля двух гадоў, на працягу якіх Джонсан толькі перамагаў, ён саступіў у бегу на 200 метраў Фрэнку Фрэдэрыксу з Намібіі. Час афрыканца — 19,82 с, амерыканца — 19,85 с. Нагадаем, што два тыдні таму Джонсан устанавіў новы сусветны рэкорд на гэтай дыстанцыі — 19,66.

### *ВЕЛАСПОРТ:* «ТУР ДЭ ФРАНС»

Пераможца «Джыра д'Італія-94» расіянін Яўген Берзін захапіў пасля сёмага этапу лідэрства ў самай складанай і папулярнай шматдзённай велагонцы «Тур дэ Франс».

На восьмым этапе Берзін замацаваў сваю пазіцыю, перамогшы гонку з раздзельным стартам (гонку праследавання) на 30 кіламетраў. Ён на 43 с апярэдзіў датчаніна Б'ярнэ Рыйса і на 45 с — чэмпіёна свету іспанца Абрахама Алана. Гэтыя ж веласіпедысты ўзначальваюць гонку ў агульным заліку. Знакаміты іспанскі гоншчык Мігель Індурайн перамагаў у гэтым спаборніцтве пяць год запар — з 1991 па 1995 г. Ці выйграе ў шосты раз? Пакуль Індурайн не на вышыні: у гонцы з раздзельным стартам ён прайграў Берзіну больш за хвіліну, а ў агульным заліку адстае амаль на пяць. Аднак наперадзе 13 этапаў, і сітуацыя яшчэ ня раз пераменіцца.

### *ШАХМАТЫ:* КАМСКІ ПЯРЭЧЫЦЬ

Калі ў шахматным матчы на першынство свету па версіі *FIDE* лік стаў 9,5:5,5 на карысць Анатоля Карпава, усе вырашылі, што канчатковая перамога для расіяніна — справа тэхнікі. Але з гэтым не пагадзіўся яго сапернік — амерыканскі гросмайстар Гата Камскі. 16-ю партыю ён правёў вельмі мэтанакіравана і дамогся поспеху на 48-м ходзе. Лік — 9,5:6,5. Карпаву для перамогі дастаткова здабыць у чатырох партыях адно ачко.

### *ФУТБОЛ:* НАШЫЯ ЗОРКІ Ў КІЕВЕ

23-гадовыя Валянцін Бялькевіч і Аляксандр Хацкевіч, футбалісты нацыянальнай зборнай Беларусі, верагодна, будуць цяпер абараняць колеры «Дынама», але ўжо не мінскага, а кіеўскага.

Мінская «Атака-Аўра» правяла ў Маладзечне трэці матч у розыгрышы Кубка Інтэртота. На жаль, мінчане зноў прайгралі. Не дзіва: «Атака» мала забівае нават у чэмпіянаце Беларусі. Як вынік — параза ад «Ротара» — 0:4 і вось цяпер ад турэцкага клуба «Анталіяспор» — 0:3. Гульня на контратаках у мінчан атрымлівалася лепш. Мабыць, таму і абыгралі ў гасцях данецкі «Шахцёр». «Атакаўцаў» чакае яшчэ адна гульня — у гасцях са швейцарскім «Базелем». Можа быць, на чужым полі будзе лягчэй.

*UEFA* правяла жараб'ёўку папярэдніх кругоў еўракубкавых розыгрышаў. У Кубку *UEFA* мінскае «Дынама» сустрэнецца з ірландскім «Багеміансам», а «Дынама-93» — з тыраспальскім «Тылігулам» (Малдова). Гульні пройдуць 17 і 24 ліпеня.

У Кубку ўладальнікаў кубкаў мазырскі МВКЦ будзе змагацца з ісландскім «Рэйк'явікам».

За правы трапіць у Лігу чэмпіёнаў будуць спрачацца «Глазга Рэйнджэрс» (Шатландыя) — «Аланія» (Уладзікаўказ, Расія), «Рапід» (Аўстрыя) — «Дынама» (Кіеў, Украіна), «Макабі» (Тэль-Авіў, Ізраіль) — «Фенербахчэ» (Турцыя), «Панафінаікас» (Грэцыя) — «Русенборг» (Нарвегія), «Гётэборг» (Швецыя) — «Фэрэнцвараш» (Венгрыя), «Відзэў» (Польшча) — «Брондбю» (Данія), «Грасхоперс» (Швейцарыя) — «Славія» (Чэхія), «Бруге» (Бельгія) — «Сцяўа» (Румынія).

**Сямён ПЛОЦ**



Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 40.250
Нумар падпісаны ў друк 8.07.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 253